За што з Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі – БНФ міліцыя хоча спагнаць каля 10.000 рублёў, чытайце на 2-й стар.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
*Якуб КОЛАС*

№ 94 (4449)

29 лістапада 2019 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

НА СУВЯЗІ – БІШКЕК

## ...Каб у Еўропе быў мір



Учора на саміце Арганізацыі дамовы аб калектыўнай бяспецы ў Бішкеку **Аляксандр Лукашэнка** выступіў з прапановай прыняць шматбаковую палітычную Дэкларацыю адказных краін аб неразмяшчэнні ракет сярэдняй і меншай дальнасці ў Еўропе. Ён жа сказаў і пра неабходнасць аднаўлення шырокага дыялогу па пытаннях міжнароднай бяспекі (па аналогіі з Хельсінкскім працэсам).

А.Лукашэнка агучыў яшчэ адну важную ініцыятыву. Захоўваецца актуальнасць выхаду АДКБ "на прамы і раўнапраўны дыялог з Паўночнаатлантычным альянсам".

ДУХОВНОСТЬ

## У православных начался Рождественский пост

Он длится ровно 40 дней и заканчивается в канун Рождества 6 января.

Рождественский пост имеет целью духовное очищение людей через покаяние, молитву и воздержание в пище, чтобы встретить Рождество с чистой душой. Рождественский пост не такой строгий, как Великий и Успенский посты. Основу стола в этот период составляют овощи, каши, бобовые и грибы. Иногда разрешается съесть немного рыбы, а по выходным – выпить вина.

ПРА ШТО ГАВОРАЦЬ...

## Ганна Канапацкая ўзарвала сеціва

У апошнія дні дэпутат Палаты прадстаўнікоў шостага склікання **Ганна Канапацкая** літаральна ўзарвала сеціва. Яна распрацавала праект закона «Аб гарантыях прэзідэнту Рэспублікі Беларусь, які спыніў выкананне сваіх паўнамоцтваў, і членам яго сям'і». Наведвальнікі сайтаў губляюцца ў здагадках – гэта што, звычайны піар ці ўсё ж сур'ёзная прапанова? Вось якія льготы яна прапануе пакінуць за прэзідэнтам краіны, калі ён сыходзіць з самай высокай у краіне пасады.

- Пажыццёвую ахову для былога прэзідэнта.
- Медыцынскае абслугоўванне на ўзроўні часу знаходжання пры ўладзе.
- Страхаванне здароўя і жыцця за кошт дзяржаўнага бюджэту.
- Недатыкальнасць былога прэзідэнта, гонар і годнасць абараняюцца законам.
- Былы прэзідэнт не можа быць прыцягнуты да крымінальнай ці адміністрацыйнай адказнасці за дзеянні, якія здзейсніў падчас знаходжання на пасадзе прэзідэнта.
- Не можа быць падвергнуты допыту, вобшуку ці асабістаму наглядy па справах, звязаных з выкананнем абавязкаў прэзідэнта Беларусі.
- Недатыкальнасці можа быць пазбаўлены ў сувязі з завядзеннем крымінальнай справы за цяжкае злачынства.
- Былы прэзідэнт мае права на 75% ад заробку, які ён атрымліваў падчас знаходжання на пасадзе.
- У пажыццёвае карыстанне прадастаўляецца адна з рэзідэнцый.
- Мае права на бясплатную ўрадавую сувязь.
- Мае права за кошт бюджэту ўтрымліваць апарат памочнікаў.

СУД І СПРАВА

## Былога кіраўніка Браслава будуць судзіць па сямі артыкулах Крымінальнага кодэкса

*2 снежня ў Віцебскім абласным судзе будзе разглядацца чарговая карупцыйная справа. Перад судом паўстануць адразу два чыноўнікі – экс-старшыня Браслаўскага райвыканкама **Уладзімір Дранеўскі** і яго жонка **Алена** – былы начальнік аддзела эканомікі райвыканкама.*

Дранеўскіх затрымалі амаль паўтара года таму – у чэрвені 2018 года. Арышт сямейнай пары выклікаў вялікі рэзананс. Што не дзіва, бо атрымлівалася, што ў здзяйсненні злачынстваў ва ўладных структурах абвінавачваюцца ўжо нават сем'і. Акрамя таго, звярнула на сябе ўвагу і фігура Уладзіміра Дранеўскага, працоўны шлях якога ўяўляў прыклад імклівага кар'ернага росту. Дранеўскі быў прызначаны старшынёй Браслаўскага райвыканкама ў студзені 2015 года, на той момант яму было 38 гадоў. Ён увогуле рана пачаў кіраваць: да пераводу ў Браслаў у родных Чашніках Віцебскай вобласці 33-гадовы Дранеўскі ўзначаліў мясцовае прадпрыемства ЖКГ, для райцэнтра гэта дастаткова важная структура, у якой працуе больш за сотню чалавек. У 2011 годзе Уладзіміра Дранеўскага назвалі Чалавекам года Віцебшчыны – "за значны асабісты ўклад у сацыяльна-эканамічнае развіццё Чашніцкага раёна".



Абвінавачанне, якое было выстаўлена Дранеўскаму летась падчас затрымання, – перавышэнне ўлады або службовых паўнамоцтваў. Уладзіміра Дранеўскага таксама абвінавачвалі ў атрыманні хабару, яго жонку – у хаўрусніцтве.

Аднак падчас следства спіс злачынстваў, у якіх абвінавачваюцца прадстаўнікі мясцовай улады, значна пашырыўся.

Так, Уладзіміра Дранеўскага будуць судзіць адразу па сямі (!) артыкулах Крымінальнага кодэкса. Да атрымання хабару і перавышэння службовых паўнамоцтваў дадаліся дача хабару, махлярства, крадзеж шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі, легалізацыя («адмыванне») сродкаў, атрыманых злачынным шляхам, а таксама саўдзел у злачынстве ў якасці падбухторшчыка.

Пабольшала абвінавачанняў і ў дачыненні да Алены Дранеўскай. Апроч перавышэння ўлады або службовых паўнамоцтваў і хаўрусніцтва ёй таксама інкрымінуецца крадзеж шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі і легалізацыя («адмыванне») сродкаў, атрыманых злачынным шляхам.

Трэба адзначыць, што жыхары Браслава не асабліва здзівіліся арышту былога старшыні райвыканкама. *"Дранеўскі – прадукт сістэмы,* – дзяліўся сваімі думкамі чытач "Народнай Волі" і былы работнік Браслаўскага райвыканкама. – *Палітыка ўлады – тасаваць кадры. І атрымліваецца, што часцяком раёны ўзначальваюць дачаснікі – прыйшлі-сышлі. Яны працуюць не на карысць раёна, а каб дагадзіць тым, хто паставіў іх на высокую пасаду. Але пры гэтым, ведаючы, што век кіраўніка ў нашай краіне нядоўгі, пачынаюць паводзіць сябе як сапраўдныя хапугі. Для Браслава гэтае затрыманне – не сенсацыя. У нас у Нацыянальным парку «Браслаўскія азёры» ўжо дзявяты (!) кіраўнік змяніўся. Трое ў свой час былі пад крымінальным пераследам за злоўжыванні службовым становішчам і крадзяжы. Так што затрыманне начальніка – гэта ўсяго толькі чарговы эпізод у жыцці рэгіёна. Не больш за тое".*

Ці вінаваты Уладзімір Дранеўскі і яго жонка *(на фота)* ў тых злачынствах, якія ім інкрымінуюцца, скажа суд.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

ТЫМ ЧАСАМ

## Судзяць намеснікаў

Выглядае, што, калі Браслаўскім раёнам кіраваў Уладзімір Дранеўскі, мясцовая ўлада пагразла ў карупцыі.

Так, зараз у судзе Глыбоцкага раёна разглядаецца крымінальная справа ў дачыненні да былога намесніка Дранеўскага **Міхаіла Плiско**. Ён, дарэчы, быў затрыманы летась разам з Дранеўскімі, але потым у дачыненні да Пліско змянілі меру стрымання.

Былога чыноўніка абвінавачваюць у перавышэнні ўлады або службовых паўнамоцтваў. Як вынікае з матэрыялаў справы, з красавіка 2016-га па студзень 2018 года ён атрымаў хабар у суме 6,3 тысячы еўра за вырашэнне пытанняў, якія ўваходзілі ў яго кампетэнцыю.

І гэта, дарэчы, не адзіны намеснік Дранеўскага, які апынуўся пад судовым пераследам.

Так, днямі суд Глыбоцкага раёна ўжо вынес прысуд яшчэ аднаму быламу намесніку старшыні, начальніку ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання Браслаўскага райвыканкама 36-гадоваму **Максіму Чагарыну**. Пра гэта паведаміў Вярхоўны суд.

Чагарына прызналі вінаватым у перавышэнні службовых паўнамоцтваў, учыненых з карыслівай зацікаўленасці. Сутнасць справы: у 2017 годзе Чагарын, а таксама яго калега і начальнік (*выпадае, што муж і жонка Дранеўскія.* – **Рэд.**) завалодалі грашыма, якія ім не належалі. Схема была такая: у красавіку 2017 года Чагарын атрымаў інфармацыю пра тое, што Браслаўскаму раёну выдзелена з абласнога бюджэту ў якасці заахвочвання 5750 рублёў, аднак дзяржслужачыя не могуць атрымліваць прэмію з гэтых сродкаў – усе грошы павінны былі быць накіраваны на прэміраванне кіраўнікоў арганізацый раёна. Ім прэміі выдалі, але потым узгаданае вышэй троіца чыноўнікаў запатрабала грошы назад і падзяліла іх паміж сабой.

Чагарын падчас судовага пасяджэння ва ўсім раскаяўся і цалкам прызнаў сябе вінаватым.

Прысуд: 3 гады 3 месяцы пазбаўлення волі з адтэрміноўкай на 2 гады 3 месяцы на падставе ч.2 арт.77 Крымінальнага кодэкса. Дадзены артыкул дазваляе адтэрміноўку, калі асуджаны за ўчыненне цяжкага злачынства, якое не спалучана з замахам на жыццё або здароўе чалавека, здзейсніў яго ўпершыню і пры гэтым да суда поўнасцю кампенсаваў урон альбо вярнуў неабгрунтаванае ўзбагачэнне, атрыманае злачынным шляхам.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

БЛІЦ

## Ці будзеце вы галасаваць за ўключэнне ў парадак дня сесіі Палаты прадстаўнікоў прапановы Ганны Канапацкай?

*З такім пытаннем карэспандэнт "Народнай Волі" звярнуўся да некаторых дэпутатаў ніжняй палаты беларускага парламента.*

**Лілія КІР'ЯК, сябра Пастаяннай камісіі па адукацыі, культуры і навуцы:**

– Пакуль нічога не магу сказаць, бо не бачыла той праект, што распрацавала Ганна Канапацкая. Трэба вывучыць тэму, а ўжо затым пра нешта казаць.

**Наталля ГУЙВІК, старшыня Пастаяннай камісіі па заканадаўстве:**

– Каб праект быў унесены ў парадак дня сесіі, яго трэба распрацаваць, ён павінен прайсці крыміналістычную і юрыдычную экспертызу, трэба ўзгадніць праект з усімі зацікаўленымі органамі.

Наколькі мне вядома, законапраект Ганны Канапацкай не прайшоў усе неабходныя працэдуры, таму яго сёння няма ў Палаце прадстаўнікоў. І на ваша пытанне можна будзе адказваць тады, калі дакумент будзе дэ-юрэ, а не дэ-факта. Як я магу нешта сказаць, калі наогул не бачыла дакумент ў выглядзе нарматыўна-прававога акта?

**Адам КАВАЛЬКО, сябра Пастаяннай камісіі па правах чалавека, нацыянальных адносінах і сродках масавай інфармацыі:**

– Я пакуль і сам не ведаю, буду я за гэта галасаваць альбо не буду.

**Дзмітрый ШАЎЦОЎ, намеснік старшыні Пастаяннай камісіі па міжнародных справах:**

– Праект пакуль не чытаў і не знаёміўся з ім, таму нічога сказаць не магу. Ганна Канапацкая вельмі позна яго падрыхтавала, відаць, вырашыла заскочыць у апошні вагон. Такія рэчы спачатку абмяркоўваюцца, даюцца на азнаямленне…

А проста сказаць: маўляў, я ўнесла ў Палату прадстаўнікоў законапраект – гэта нічога не сказаць. Паўтаруся, дакумент павінен уносіцца згодна з тымі нормамі, пра якія Ганна Канапацкая добра ведае.

На мой погляд, калі гэты законапраект і будзе разгледжаны, то ўжо дэпутатамі іншага склікання.

**Андрэй НАУМОВІЧ, сябра Пастаяннай камісіі па правах чалавека, нацыянальных адносінах і сродках масавай інфармацыі:**

– Гэта права Ганны Канапацкай – прапаноўваць законапраект, але я на гэтую тэму нічога каментаваць не буду.

ПРЕЗЕНТАЦИЯ

## Форум Новых Людей




Когда мы хотим сделать что-то вместе, мы сначала говорим друг с другом. Именно для этого проводится Форум Новых Людей -- большая, открытая, дружеская встреча. Это мероприятие, где собираются эксперты Беларуси по экономике, предпринимательству, локальным инициативам. А также те, кто уже сумел добиться успехов в решении разных социальных вопросов: от ремонта дороги до строительства поликлиники и покупки реанимобиля в поселок.

Очевидно, что Беларуси нужны перемены. И осуществлять их будут НОВЫЕ ЛЮДИ. Кто они? Мы с вами. Те, кто уже сегодня преображает страну своей гражданской активностью. Нас много. Чтобы убедиться в этом, мы встретимся на Форуме Новых Людей, поделимся опытом и подумаем о том, как объединять свои усилия.

### В программе:

– Выступления экспертов в четырех тематических блоках: локальные инициативы, образование, предпринимательство, личная социальная активность.

– Бесплатные консультации юристов по вопросам гражданской активности.

– Презентации успешных гражданских инициатив.

**Среди экспертов** Маркус Меккель (Германия) – последний министр иностранных дел ГДР, депутат Бундестага; человек, знающий, как с наименьшими издержками менять страну.

**Ведущий Форума** – Андрей Куликов (Украина), вел дебаты между Петром Порошенко и Владимиром Зеленским на стадионе в Киеве.

**Каждый участник** сможет задать свой вопрос экспертам и поделиться впечатлениями через «открытый микрофон».

**Вопросы, поднятые на форуме**, станут основой для общественных кампаний и программных предложений для государственных структур и бизнес-сообществ.

Около 500 человек соберутся в одном зале.

**1 декабря (воскресенье).**

Минск. Зал гостиницы «Пекин».

Вход свободный.

Регистрация участников Форума Новых Людей с 10.00 до 11.00

Программа и заявки на участие – на сайте мероприятия **http://forum.zapraudu.by/minsk/**

Ждем вас на Форуме!

ПЕЧАЛЬНО...

## Убийство белорусского мальчика в Екатеринбурге

Свердловские правоохранительные органы выясняют информацию о гибели в Екатеринбурге девятилетнего мальчика из Беларуси. Одной из версий называется версия о «сектантском следе», об этом в четверг сообщили российские СМИ со ссылкой на источники в правоохранительных органах региона.

Также сообщается, что мать ребенка, которая могла придерживаться нетрадиционных религиозных взглядов, якобы вернулась в Беларусь.

Согласно информации из открытых интернет-источников, тело убитого мальчика было обнаружено в Чкаловском районе Екатеринбурга. Об исчезновении ребенка в полицию заявила сестра матери ребенка. В квартире женщины был проведен обыск.

Как сообщают СМИ, по одной из версий, мальчика били, чтобы «изгнать бесов», а потом вынесли из квартиры тело и закопали в лесопарковой полосе. По предварительной версии, преступление могло быть совершено в октябре этого года.

Детский омбудсмен региона Игорь Мороков сообщил агентству РИА «Новости», что аппарат уполномоченного по правам детей в Свердловской области проверит информацию СМИ об убийстве родителями своего сына.

SOS!

## Гінуць людзі

За дзевяць месяцаў на прадпрыемствах Гродзенскай вобласці загінулі 20 чалавек, што ў 2,5 раза больш, чым за такі ж перыяд летась.

Да самых траўманебяспечных прафесій сёлета залічылі работу трактарыста-машыніста, шафёра, жывёлавода, слесара-рамонтніка, вальшчыка лесу і падсобнага рабочага. Найбольшая колькасць загінуўшых зарэгістравана ў арганізацыях сельскай, лясной гаспадаркі, будаўніцтва і на суб'ектах малога прадпрымальніцтва. Дарэчы, 70% загінуўшых – людзі ва ўзросце больш за 40 гадоў.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук

# С суверенным бюджетом

Нижняя палата уходящего парламента дружно приняла в первом и втором чтениях проект закона о бюджете. Министерство финансов формировало республиканский бюджет по консервативному сценарию, исходя из худших для экономики Беларуси вариантов внешних условий. Курс доллара закладывался в пределах 2,24 рубля, мировая цена российской нефти – 60 долларов за баррель, рост ВВП на 2020 год – 1,9%, импорт нефти из России в объеме 18 миллионов тонн.

Республиканский бюджет впервые за последние годы верстается с дефицитом, который запланирован в 995,1 миллиона рублей. Его хотят профинансировать за счет остатков бюджета прошлых лет и госзаймов.

Как известно, Беларуси было позволено до 2020 года осуществлять реэкспорт 6 миллионов тонн российской нефти, пополняя закрома валютой, а бюджет – экспортными таможенными пошлинами. Однако с нового года такой «льготы» Кремль нас лишил.

В то же время в новом году потребуется 630 миллионов долларов кредита на рефинансирование прежних долгов; 200 миллионов долларов последнего транша кредита ЕФСР; 400 миллионов компенсации налогового маневра и, наконец, 424 миллиона долларов потерь в виде вывозных пошлин от прекращения вышеупомянутого реэкспорта нефти. Итого: одного миллиарда 654 миллионов долларов по самым скромным подсчетам у Беларуси не будет. Есть еще потери бюджета от снижения вывозных пошлин на белорусские нефтепродукты, которые связаны с налоговым маневром, потери наших НПЗ и т.п.

Минфин Беларуси подсчитал, что только потери бюджета в следующем году составят 839,1 миллиона долларового эквивалента.

Кроме того, выплаты по госдолгу на 2020 год оцениваются в 3,895 миллиарда долларов: по внешнему госдолгу – 2,654 миллиарда, по внутреннему – 1,241 миллиарда долларов. Если напомнить, что три четверти госдолгов Минфин ежегодно рефинансировал в основном за счет новых кредитов России, то можно представить, какие финансовые проблемы ожидают страну в следующем году. Правительство намерено взять кредит у Банка развития Китая на 3,5 миллиарда юаней (около 500 миллионов долларов), и, как сообщалось в СМИ, достигнута договоренность с российскими инвесторами о размещении гособлигаций Минфина, номинированных в российских рублях, примерно на 500 миллионов долларов в эквиваленте. Но этого явно мало. Тем более что запланированы рост расходов республиканского бюджета в 2020 году на 11,4% и рост зарплат бюджетников всех уровней на 15,8%.

В целом Минфин рассчитывает в 2020 году произвести заимствования путем размещения гособлигаций на сумму 1,950 миллиарда долларов, в том числе 1,350 миллиарда долларов на внешних рынках и 600 миллионов долларов – на внутреннем. Суммы по ежегодному размещению гособлигаций для Минфина рекордные. Поэтому последнее сообщение в СМИ о том, что Минфин намеревается разместить 2 миллиарда долларов евробондов на Лондонской бирже, было ожидаемо. Но европейские инвесторы потребуют высокой доходности облигаций в связи с низким финансовым рейтингом Беларуси (не менее 6–7% годовых). Финансовые возможности белорусских инвесторов весьма ограничены, чтобы «потянуть» 600 миллионов долларов облигационных займов. Отсюда результаты всех намеченных Министерством займов остаются под большим вопросом. В то время как МВФ может предоставить нам кредит под менее 3% годовых. Для чего недостает малого – структурных реформ.

Министерство финансов не отказывается от заявленных социальных программ довести среднюю зарплату бюджетников до 80% от средней по стране, а пенсию – до 40%, при том что доходы республиканского бюджета вырастут всего на 0,3%. На сегодня рост зарплаты и так продолжает в разы превышать рост производительности труда. Правительство, наверное, уже не мониторит эту опасную ситуацию.

Выправлять ситуацию с доходами Минфин планирует за счет злачных товаров – ставки акцизов на крепкий алкоголь повысятся на 5%, на табачные изделия – на 15%. Еще 200 миллионов рублей возьмут за счет льгот по ввозу легковых авто для инвалидов I–II групп и многодетных родителей. Нас ждет существенное повышение тарифов на проезд в общественном транспорте. Запланировано снижение бюджетной дотационности столичного автобусного транспорта на 25%, а метро – в 2,5 раза. Несмотря на увеличение пенсионного возраста, бюджет Фонда социальной защиты населения все равно не сводит концы с концами. Растущий размер трансферта Фонду на следующий год Минфин оценивает в 1,963 миллиарда рублей. Это признак того, что после 2022 года вновь потребуется повышение пенсионного возраста.

Несмотря на то, что золотовалютные резервы Беларуси в октябре выросли на 360 миллионов долларов и на 1 ноября составили рекордные 9,2 миллиарда, предусмотрено, что к концу 2020 года они потеряют 1,5 миллиарда «зеленых». И это не мудрено, если иметь в виду потерю всей валютной поддержки России. В 2020 году, возможно, придется начать погашение «атомного» российского кредита. К началу 2019 года Беларусь на АЭС израсходовала 3,4 миллиарда долларов госкредита России и 383 миллиона долларов кредита российского банка ВЭБ. Общая стоимость строительства БелАЭС прогнозируется в 7,9–8 миллиардов долларов. Помимо этого, не надо забывать, что для Беларуси может не стать льготной и цена на газ.

В бюджете не заложено доходов от приватизации госпредприятий. А ведь 90% всех акций белорусских АО принадлежат государству.

Учитывая нулевую помощь от России, Минфин, я считаю, правильно делает, что формирует бюджет на следующий год по консервативному сценарию, закладывает существенную девальвацию белорусского рубля, невысокие темпы роста экономики, как сказал министр финансов, в качестве страховки «на черный день». Грубые подсчеты показывают: властям надо где-то раздобыть как минимум 1,5–2 миллиарда долларов. Естественно, не у России. Она уже оценила наш суверенитет примерно в эти суммы.

Полагаю, наш суверенитет не продается!

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

# З КХП–БНФ хочуць спагнаць каля 10 тысяч рублёў за «Дзяды»

Так, мінская міліцыя намагаецца спагнаць каля дзесяці тысяч рублёў з Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі – БНФ за «Дзяды». Штогадовае вулічнае шэсце, прысвечанае Дню памяці продкаў, прайшло ў Курапаты 3 лістапада, а таксама ў Лошыцу 10 лістапада. Арганізатарам памінальных акцый па традыцыі была Кансерватыўна-Хрысціянская партыя – БНФ. Заяўнікі адмовіліся аплачваць працу міліцыі, чаго праваахоўнікі патрабуюць, спасылаючыся на Пастанову Савета міністраў ад 24 студзеня 2019 года. За адмову падпісаць пагадненне аб аплаце ў дачыненні да намесніка старшыні КХП–БНФ Юрася Беленькага распачаты тры адміністрацыйныя судовыя працэсы.




**– Спадар Юрый, чаму КХП–БНФ вырашыла адмовіцца ад аплаты?**

– Таму што дзейнае заканадаўства краіны дазваляе грамадзянам праводзіць мірныя сходы і акцыі без дадатковай аплаты. Калі больш дакладна, то, паводле артыкула 116 Канстытуцыі, міжнародныя прававыя акты, якія ратыфікавала Беларусь, маюць вышэйшую юрыдычную сілу ў параўнанні з законамі, дэкрэтамі і ўказамі Рэспублікі Беларусь. Наша краіна ратыфікавала Міжнародны пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах, артыкул 21 якога гарантуе права на мірныя сходы. Таксама Беларусь з'яўляецца дзяржавай – удзельніцай АБСЕ і мае абавязацельствы перад ёю. Паводле нарматыўных актаў БДІПЧ АБСЕ, усе выдаткі, звязаныя з забеспячэннем дадатковых мер бяспекі мірных сходаў, павінны цалкам браць на сябе органы ўлады, і дзяржава не мусіць браць аніякай дадатковай платы. Таму, патрабуючы аплаты, улады Беларусі парушаюць міжнародныя нормы і Канстытуцыю краіны.

**– Як вядома, аналагічныя патрабаванні былі выстаўлены і арганізатарам Дня Волі 2019. Палітыкі таксама адмовіліся аплачваць працу міліцыі, прайшлі суд, але ў выніку прайгралі.**

– Нешта падобнае адбываецца і ў нашым выпадку: паколькі я намеснік старшыні КХП–БНФ і падпісваў заяву на правядзенне «Дзядоў», то супраць мяне асабіста склалі аж тры пратаколы паводле ч.2 арт.23.34 КаАП «Парушэнне парадку арганізацыі масавага мерапрыемства» і ўжо выклікаюць у суд, каб накласці спагнанне. А я, намеснік старшыні партыі, службовая асоба і нясу адказнасць за незаконныя выплаты грашовых сродкаў арганізацыі. Я ўчыню крымінальнае злачынства, калі буду рабіць незаконныя выплаты за кошт сродкаў юрыдычнай арганізацыі. А я ведаю, што патрабаванні аплачваць работу міліцыі па ахове парадку мірных сходаў – незаконныя.

Па сутнасці, з боку міліцыі гэта вымагальніцтва: спачатку яны выстаўляюць фінансавыя патрабаванні, а калі мы не плацім, тая ж міліцыя цісне адміністрацыйнымі справамі. А праваахоўнікі маюць тут непасрэдную зацікаўленасць, бо гэтыя грошы ідуць у пазабюджэтны фонд, з якога ім выплачваюць прэміі. Таму такія дзеянні мусяць цягнуць за сабой крымінальную справу за незаконнае вымагальніцтва для асабістай выгады.

**– Як вам падаецца, гэты новы прававы акт аб аплаце масавых мерапрыемстваў якую мэту мае насамрэч – толькі атрымаць дадатковыя фінансавыя сродкі ці знізіць грамадскую актыўнасць агулам?**

– Найхутчэй гэта такі агульны «накат» на ўсе грамадскія нацыянальныя сілы на тле «інтэграцыі» з Расіяй. Каб нават спроб не было пратэставаць у выпадках падпісання розных дамоўленасцяў і пагадненняў. Але мы накіруем лісты ў кожную краіну – член АБСЕ з пытаннем: як так атрымліваецца, што ў Вене працуе офіс Рэспублікі Беларусь у АБСЕ і адначасна краіна дэманстратыўна парушае міжнародныя заканадаўчыя нормы?

Больш за тое, я атрымаў ліст Камітэта ААН па правах чалавека, у якім паведамляецца, што ААН лічыць дзеянні ўлад Беларусі па спагнанні грошай за некамерцыйныя масавыя мерапрыемствы не адпавядаючымі міжнародным прававым актам, якія ратыфікавала Беларусь. Гэта значыць, што незаконнасць дзеянняў беларускіх улад – гэта не маё прыватнае меркаванне альбо пазіцыя КХП–БНФ, – гэта факт, засведчаны ўплывовай структурай ААН.

Я ўжо не кажу пра маральны бок: міжнародныя палітыкі і дыпламаты, з якімі мне даводзілася размаўляць, не могуць зразумець, што людзей пераследуюць і штрафуюць за мірныя акцыі, якія тычацца ўшанавання памяці ахвяр палітычных рэпрэсій альбо святкавання нацыянальных святаў.

**– Тым не менш КХП–БНФ плануе таксама святкаваць 99-я ўгодкі Слуцкага збройнага чыну…**

– Так, наша заява на правядзенне ўрачыстасцяў 1 снежня на Случчыне задаволена. Гэта будзе аб'езд вядомых месцаў баёў слуцакоў з войскамі Чырвонай арміі: Семежава, Грозава, Чырвоная Слабада, Слуцк, дзе адбудзецца ўскладанне кветак і мітынгі. Гэта таксама традыцыйнае святкаванне дня памяці герояў – слуцакоў, якія паўсталі супраць войскаў савецкай Расіі за свае правы і ўладу Беларускай Народнай Рэспублікі. І мы будзем шанаваць памяць Герояў, не зважаючы на ціск і перашкоды.

**Галіна АБАКУНЧЫК.**

З ЗАЛЫ СУДА

# «Мінёры» – у судзе, «Фрыц» – на волі

*Суд Гомельскага раёна 27 лістапада пачаў разгляд гучнай крымінальнай справы пра незаконны абарот наркатычных і псіхатропных рэчываў. Фігурантамі справы сталі 9 спажыўцоў і кур'ераў інтэрнэт-крамы па продажы наркотыкаў, у іх ліку і пяцёра непаўнагадовых навучэнцаў ліцэяў і каледжаў.*

Сярод гэтак званых «мінёраў», якія на патрабаванне «працадаўцы» рабілі закладкі наркотыкаў у патаемных месцах, бальшыня непаўнагадовыя. Яны жылі ў адным мікрараёне, хадзілі ў адзін клас, гулялі разам у футбол і «балаваліся» наркотыкамі.

Групу затрымалі сёлета ў красавіку супрацоўнікі ўпраўлення па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі Гомельскай абласной міліцыі. Гатовыя да продажу псіхатропы кампанія захоўвала па месцы жыхарства аднаго з падлеткаў у аграгарадку Пакалюбічы, што пад Гомелем. Побач з домам у хлеўчуку аператыўнікі знайшлі 28 поліэтыленавых пакецікаў з асабліва небяспечным наркатычным рэчывам альфа-PVP, а таксама электронныя вагі, рэспіратары і ўпаковачны матэрыял для фасавання наркотыкаў. Яшчэ адну дозу альфа-PVP выявілі пры асабістым аглядзе падлетка.

Крымінальную справу распачалі паводле частак 1 і 3 артыкула 328. Апроч «закладак», якія падпадаюць пад згаданы артыкул, падлеткаў і іх дарослых прыяцеляў абвінавачваюць у крадзяжы грошай з выкарыстаннем камп'ютарнай тэхнікі – артыкул 212 Крымінальнага кодэкса. У справе фігуруюць два дзясяткі пацярпелых – тых, хто паддаўся на нібыта бяскрыўдныя просьбы дзялкоў даць на хвілінку мабільнік, каб патэлефанаваць альбо звязацца з сябруком «ВКонтакте», і пазбавіўся пасля гэтага грошай на тэлефонных рахунках.

На судовы працэс, які распачаўся ў будынку Гомельскага абласнога суда з прычыны наяўнасці большага памяшкання, непаўнагадовых і двух дарослых абвінавачаных, раней судзімых, прывезлі з СІЗА. Яны знаходзяцца ў ізалятары ад моманту затрымання.

Яшчэ двое дарослых, з якіх узята падпіска аб нявыездзе, прыйшлі на суд самі – гэта спажыўцы наркотыкаў, якія карысталіся патаемнымі закладкамі «мінёраў».

Фігуранты крымінальнай справы прызнаюць сваю віну ў незаконных дзеяннях з наркатычнымі рэчывамі. Аднак застаецца нявысветленым, дзе падлеткі і дарослыя ўзялі столькі небяспечных псіхатропных рэчываў, каб рабіць закладкі і яшчэ расфасаваць у раздроб амаль тры дзясяткі доз.

У абвінавачанні на гэты конт утрымліваюцца стандартныя фармулёўкі: «у неўстаноўленай асобы, неўстаноўленым спосабам». Тым часам некаторыя непаўнагадовыя навучэнцы прыгадвалі нейкага Віталя па мянушцы «Фрыц». Аднак на лаве падсудных яго няма – не знайшлі. І гэта нагадвае сітуацыю з пакаранымі ў кастрычніку навучэнцам каледжа Стасам і школьніцай Кацярынай, якія распаўсюджвалі наркотыкі па заданні «куратара Баці» не толькі ў Гомелі, але і ў Рэчыцы, Магілёве. Яўнага наркадылера «Бацю», як і пастаўшчыка «Фрыца», таксама не знайшлі. Значыць, чакай новых «мінёраў».

**Анатоль ЛІПСКІ.**

АДКРЫТАЕ ПЫТАННЕ

# Ці вернуць бацькам грошы за ўрокі плавання?

У Дзятлаве Гродзенскай вобласці бацькам дзяцей, з якімі ўрокі фізкультуры праводзяць у басейне, даводзілася плаціць за гэта грошы. Пасля таго як тэму паднялі ў СМІ, збор платы прыпыніўся.

Загадчыца раённага аддзела адукацыі Наталля Белавус не стала каментаваць "Народнай Волі" сітуацыю, праўда, запэўніла, што рыхтуецца пісьмовае паведамленне для СМІ і яно хутка будзе апублікавана. Аднак і на трэці дзень пасля нашай размовы ніякага паведамлення не з'явілася. Адсутнічае падобная інфармацыя і на сайце Дзятлаўскага райвыканкама, а таксама раённай газеты.

Тым часам чыноўнікі Мінадукацыі праз СМІ заявілі, што браць грошы з бацькоў за планавыя ўрокі фізкультуры ў басейне неправамерна.

Літаральна ў апошнія дні з'явілася новая інфармацыя, што ўрокі плавання пакуль адмянілі і нібыта чыноўнікі шукаюць рашэнне гэтай сітуацыі.

Тым не менш бацькі дзяцей, з якімі гутарыла "Народная Воля", прасілі запытацца ў чыноўнікаў, ці вернуць ім грошы, якія з іх незаконна бралі за наведванне басейна іх дзецьмі падчас планавых урокаў фізкультуры.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

СТАЛА ВЯДОМА

# З 1 студзеня Станіслаў Зась будзе генеральным сакратаром АДКБ

*Зойме ён гэту пасаду на ратацыйнай аснове ў адпаведнасці з рускім алфавітам. С.Зась зменіць прадстаўніка Арменіі. Такое рашэнне прынялі ўчора кіраўнікі дзяржаў, якія ўваходзяць у склад Арганізацыі Дамовы аб калектыўнай бяспецы.*



## Дасье

Станіслаў Васільевіч Зась нарадзіўся ў 1964 годзе ў Чарнігаўскай вобласці. Вайсковы і дзяржаўны дзеяч. З 2015 года дзяржаўны сакратар Савета бяспекі, кандыдат ваенных навук.

У 1985 годзе з адзнакай скончыў Бакінскае вышэйшае агульнавайсковае каманднае вучылішча, у 1996-м з адзнакай і залатым медалём скончыў Ваенную акадэмію Рэспублікі Беларусь, а ў 2005 годзе таксама з адзнакай і залатым медалём – Ваенную акадэмію Генеральнага штаба Узброеных сіл Расійскай Федэрацыі.

Праходзіў ваенную службу на розных пасадах ва Узброеных сілах. Быў начальнікам аддзела ваеннага будаўніцтва галоўнага аператыўнага ўпраўлення Генеральнага штаба Узброеных сіл Рэспублікі Беларусь, займаў пасаду намесніка начальніка галоўнага ўпраўлення – начальніка 1-га ўпраўлення галоўнага аператыўнага ўпраўлення Генеральнага штаба Узброеных сіл Беларусі.

29 жніўня 2008 года ўказам прэзідэнта Рэспублікі Беларусь прызначаны намеснікам дзяржаўнага сакратара Савета бяспекі Беларусі.

З 1 ліпеня 2015 года ў адпаведнасці з Указам прэзідэнта Рэспублікі Беларусь выконваў абавязкі дзяржаўнага сакратара Савета бяспекі.

4 лістапада 2015 года быў прызначаны дзяржаўным сакратаром Савета бяспекі Беларусі.

ЧУЛІ?

# Мінскводаканал плануе зменшыць нормы спажывання вады ў 4 разы

*Савет па развіцці прадпрымальніцтва пры Мінгарвыканкаме падтрымаў прапанову Мінскводаканала аб змене нормаў спажывання вады, перадае «Мінск-Навіны».*

Паводле слоў начальніка Цэнтра па разліку са спажыўцамі «Вадазбыт» Мінскводаканала **Васіля Ананіча**, цяпер у горадзе дзейнічаюць старыя нормы спажывання вады, якія былі ўстаноўлены яшчэ ў 2003 годзе. Таму наспела неабходнасць змены нормаў. Для аказання жыллёва-камунальных паслуг і тэхнічнага абслугоўвання ў жылым фондзе дзеючы норматыў 12 літраў на 1 кв. метр прапануецца знізіць у 4 разы – да 3 літраў на 1 кв.метр.

Мінскводаканал таксама перагледзіць нарматывы спажывання вады для насельніцтва і абанентаў, у якіх няма лічыльнікаў, на вядзенне асабістай гаспадаркі.

АФІЦЫЙНА

# Не прыйшлі да згоды…

*Перспектыў для новай праграмы з МВФ у 2020 годзе не праглядаецца, заявіў міністр фінансаў* ***Максім Ермаловіч.***

Ён адзначыў, што партнёры МВФ хацелі б бачыць больш хуткія рэформы ў дзяржаўным сектары, больш актыўнае павышэнне тарыфаў на паслугі ЖКГ. *«Мы пакуль разыходзімся менавіта па хуткасці гэтых дзеянняў. Перспектыў таго, што мы прыйдзем да згоды па гэтых дзвюх пазіцыях у наступным годзе, я не бачу»*, – цытуе міністра БЕЛТА.

ФАКТ

# Забіў кацяня – арыштавалі на месяц

Такі вырак вынес суд Цэнтральнага раёна Гомеля 54-гадоваму гамяльчаніну за жорсткае абыходжанне з жывёлай (на падставе часткі 1 артыкула 339 Крымінальнага кодэкса).

Інцыдэнт здарыўся сёлета ў ліпені. У двары дома на вуліцы Бранскай мясцовы жыхар з хуліганскіх памкненняў і п'янай зухаватасці нанёс бяздомнаму кацяняці не менш як тры ўдары нагой па галаве. Ад удараў коцік сканаў на месцы. Гэта бачылі іншыя гараджане, у тым ліку і 5-гадовае дзіця.

Кацяня заскочыла на стол з ежай, які стаяў у двары. Гэта і выклікала шалёную агрэсію ў мужчыны.

Ён прызнаны судом вінаватым у жорсткім абыходжанні з жывёлай, што прывяло да яе гібелі. Апроч месячнага арышту, гамяльчанін абавязаны прайсці і прымусовае лячэнне ад алкагалізму па месцы адбыцця пакарання.

Прысуд яшчэ не набыў юрыдычную моц і можа быць апратэставаны альбо абскарджаны.

**Анатоль ЛІПСКІ.**

ЖУРНАЛИСТСКОЕ РАССЛЕДОВАНИЕ

# За крупной стройкой в центре Минска может стоять семья Бакиевых

*Это не первый многомиллионный бизнес семьи Бакиевых в Беларуси.*

В следующем году возле стадиона «Динамо» в Минске планируется открыть многофункциональный комплекс Centropol. В разновысотном здании на пересечении улиц Свердлова и Ульяновской разместятся казино, медицинский, детский и развлекательные центры, бутики, бары и рестораны, летнее кафе.

Комплекс позиционируется как премиальный. Объем инвестиций в проект оценивается в 80 миллионов долларов.

Строительство ведет иностранное строительное унитарное предприятие «Гермес Констракшн». Инвестдоговор с городскими властями был заключен еще в 2011 году, но сроки строительства сместились из-за изменения назначения объекта по просьбе застройщика. Изначально планировали построить гостиницу.

Согласно выписке из Единого государственного регистра юридических лиц и индивидуальных предпринимателей Беларуси, «Гермес Констракшн» на 100% принадлежит кипрской компании D-Business Solutions Limited.

Согласно кипрскому регистру, D-Business Solutions Limited была зарегистрирована в ноябре 2009 года и принадлежит трем фирмам: Norline Development (2,5%), Reamare Investments Limited (17,5%) и Forpaton Resource LP (80%).

Norline Development в свою очередь зарегистрирована в Доминике как офшорная компания. Reamare Investments Limited зарегистрирована на Кипре. Ее владельцем является гражданин Израиля **Дэн Смоляк**.

Forpaton Resource LP зарегистрирована в Шотландии. Лицом с существенным влиянием (75% и больше) в этой фирме является 25-летний гражданин Беларуси **Руслан Петров**, свидетельствует информация в британском регистре.







Руслан Петров (фото из соцсети).

Курманбек Бакиев с первой супругой – в центре, справа от них – сын Максим с женой, слева – сын Марат с супругой и внук Руслан.

## Кто такой Руслан Петров?

Есть основания предполагать, что под фамилией Петров скрывается **Руслан Бакиев** – внук Курманбека Бакиева.

Вот семейное фото Бакиевых. Курманбек Салиевич с первой супругой стоит в центре, справа от него – сын Максим с женой, слева – сын Марат с супругой и внук Руслан. **Марат Бакиев** был помощником председателя Государственного комитета национальной безопасности Кыргызстана. Его жена – русская. Ее зовут Лариса.

А вот фото Руслана Петрова, рожденного в январе 1994 года (как указано и в британском регистре), из его аккаунта в «Фейсбуке». В друзьях у Руслана Петрова значится человек по имени **Максим Бакиев**.

В сети Linkedin указано, что Руслан Петров в 2010–2015 годах изучал мировую экономику в Белгосуниверситете.

В списке студентов, поступивших в 2010 году на специальность «мировая экономика» факультета международных отношений БГУ, студента Руслана Петрова нет. Зато есть студент Бакиев Руслан Маратович.

Однако в следующем году студент Руслан Маратович в публикациях на сайте факультета упоминается уже под фамилией Петров. Вот, например, Руслан Петров участвует в экономической викторине. Его команда стала победителем.

В том же 2011 году Руслан Петров занял третье место в университетских соревнованиях по дзюдо.

В 2014 году Руслан Петров выступал на научно-практической конференции с англоязычным докладом по стратегическому менеджменту. А дипломную работу в 2015 году студент Руслан Маратович Петров писал на тему конкурентоспособности белорусских брендов на международных рынках. Руководителем у Петрова был известный белорусский экономист **Михаил Залесский**.

Naviny.by пытались связаться с Русланом Петровым, однако он через своих подчиненных передал, что не имеет отношения к стройке возле стадиона «Динамо». По информации *Naviny.by*, проектом Centropol занимается его отец Марат Бакиев.

По белорусским документам внук Курманбека Бакиева ведет другой бизнес. Согласно выписке из ЕГР Беларуси, Руслан Маратович Петров является соучредителем ООО «Белхантер-Инвест», которая была зарегистрирована в марте этого года и занимается сдачей внаем собственного и арендуемого недвижимого имущества.

Партнером по этому бизнесу у Руслана Петрова является заместитель председателя Белорусской федерации панкратиона и смешанных единоборств, бизнесмен **Андрей Шихлин**, который построил бизнес-центр Kiroff Center.

Офисы «Гермес Констракшн» и «Белхантер-Инвест» в этом бизнес-центре находятся рядом. Там же располагается компания Андрея Шихлина «Парагис». Недавно она выкупила торговый центр Arena City, который раньше принадлежал крупным бизнесмена **Юрия Чижа**.

## Бакиев-младший не первый, кто поменял фамилию

Как ранее сообщалось, семья Бакиевых также имеет долю в Белорусской национальной биотехнологической корпорации, которая вместе с государством на китайский льготный кредит в 628 миллионов долларов строит заводы по производству аминокислот и комбикормов в Пуховичском районе.

Через шотландские компании Altastar LP и Maxforse LP племянник беглого президента Кыргызстана **Асылбек Салиев** контролирует 22,5% в БНБК. Директором корпорации является гражданин Беларуси **Даниил Урицкий**, в котором в Кыргызстане опознали бывшего премьер-министра **Данияра Усенова**.

После революции в Кыргызстане в 2010 году, в ходе которой погибло как минимум 84 человека, Бакиевы бежали из страны и обосновались в Беларуси. На родине члены семьи заочно приговорены к пожизненному заключению или длительным срокам заключения за соучастие в убийстве людей, покушение на убийство и превышение должностных полномочий. Кыргызстан неоднократно требовал экстрадиции Бакиевых, но Беларусь отказывала в этом.

Как заявлял Радио Свобода финансовый советник Бакиевых **Евгений Гуревич**, семья бывшего президента Кыргызстана вывела из страны 200–300 миллионов долларов. Сейчас Гуревич пишет книгу о коррупционных схемах семьи Бакиевых.

**Александр ЯРОШЕВИЧ.**
*(Naviny.by.)*

ПЕРСОНА

## Владимир СЛОБОДЧИКОВ:

# «Желание угождать – катастрофа для творца. Тебя ж на всех не хватит»

*Недавно в Болгарии был торжественно открыт памятник нашему любимому поэту Янке Купале. Его создал белорусский скульптор Владимир Слободчиков по заказу одного частного лица, гражданина Болгарии, который по личной инициативе обратился в наш Государственный литературный музей Янки Купалы, чтобы ему помогли найти исполнителя. Причем – настаивал заказчик – обязательно знаменитого белорусского скульптора.*

Что ж, ни у кого из наших соотечественников, работников музея, не возникло сомнений: это должен быть Владимир Слободчиков, заслуженный деятель искусств, профессор, почетный член Российской академии художеств, член Королевского общества британских скульпторов. Заказ был передан ему. И выполнен, как обычно это делает Владимир Иванович, с необыкновенно тонким психологизмом, великим чувством личного переживания и участия в судьбе и творчестве Песняра.

**– Я знаю, вы часто выполняете заказы на памятники известным людям, историческим персонам. Но как вы добиваетесь этих престижных заказов? У вас, наверное, хорошие связи в верхах?**

– А что, они не помешали бы художнику. Но дело в том, что определенные верхи сейчас так часто меняются, навести долговременные контакты просто не успеваешь. Однажды я выиграл конкурс на памятник княгине Ольге в Витебске. Инициатива принадлежала председателю Витебского облисполкома Косинцу. Контактировать с ним лично мне было очень интересно. Но потом чиновник со своего поста ушел, и заказ ушел вместе с ним. А новому начальнику эта идея оказалась совсем не интересна.

**– А художник во все века – заложник заказчика, его кошелька и настроения.**

– С того момента прошло уже десять лет. Кстати, определенную свинью подложила и ваша газета, которая усомнилась, нужен ли городу этот памятник.

**– Авторам статьи не нравилась персона княгини?**

– Хм, как бы то ни было, она считается основательницей города. Но я вообще-то делал легенду про Ольгу. А легенд много не бывает. В общем, памятник не состоялся, его эскиз стоит который год в мастерской… Вроде бы сейчас мэр Витебска им заинтересовался, ему работа нравится. Но у города нет достаточно средств. В общем, сами видите, как работают мои «связи».

**– Но были заказы и со счастливым концом. Например, вы поставили в Минске очень хороший памятник-посвящение Владимиру Короткевичу.**

– Это идея Александра Васильевича Шакутина, который возглавляет совет директоров «Амкодора». Место памятника тоже он определил – около продюсерского центра «Спамаш». И… я сразу почувствовал некоторый диссонанс: персона такого значительного писателя требует другой площадки в городе, правда? Я объяснил свою позицию заказчику, в результате появилась скульптурная композиция «Посвящение поэту», прообразом которого стал Короткевич. Он там юный, начинающий – кстати, в начале творческого пути он писал стихи, знаете? А большой памятник в Минске нашему талантливейшему писателю, уверен, еще впереди.

**– Как вы думаете, при нашей с вами жизни появится памятник Василю Быкову?**

– Полностью уверен! Но около Дома литераторов – есть такой план – ставить не надо. Для Быкова в городе должно найтись место более значимое.

**– А сколько стоит поставить памятник? Каков его средний бюджет?**

– Очень дорого. От ста тысяч долларов и выше. Материалы дорогие – бронза… И гранит в качестве пьедестала. Плюс фундаментные и ландшафтные работы.

**– Исторические персонажи лепить труднее, чем делать портрет с живого человека?**

– Конечно. Потому что требуется внимательное изучение истории. Когда лепил памятник художнику Ваньковичу, то изучал костюм XIX века вплоть до пуговиц, манжет и штрипок на панталонах. Я люблю достоверность и, конечно, творчество своих героев.

**– Да, с «холодным носом» хорошую работу не создашь. Вообще, сейчас, по-моему, мы переживаем своего рода монументальный бум – в городе каждый год появляются новые работы, причем за средства частников. Но эти композиции иногда такие безвкусные… Они вообще проходят худсовет? Есть за ними какой-то творческий контроль?**

– Лично я вхожу в Республиканский и Минский областной монументальные советы. Мы принимаем работы, значимые для страны. А есть еще городской совет, статусом ниже, он принимает всё монументальное искусство и камерную скульптуру города. К сожалению, там, я думаю, очень часто довлеет заказчик: его вкус, его желания, его деньги. Мнения автора и худсовета далеко-далеко на втором месте. Это настоящая проблема – потворство вкусу заказчика. Вообще желание угождать – катастрофа для творца, тебя ж на всех не хватит. Ты хочешь иметь работу и гонорар? Но знай, что на деле роешь себе как художнику могилу.

**– На скульптуру в городе люди реагируют очень остро, правда? С ней или хотят породниться, вместе сфотографироваться, или осмеивают ее, как того же бедного «Минского городового». Кстати, «Городовой» какой-то недоросток, скульптор не учел, как уменьшается работа в пространстве. Явно не ваш ученик, Владимир Иванович, выполнял этот заказ.**

– Когда работа уходит из мастерской, то у нее уже своя судьба, над который ты не властен. Помню, возле старейшего зоопарка в Берлине стоит мраморный буйвол – величиной чуть ли не в две натуры. По нему радостно ползают дети. Как они это делают? Хватаются за пенис, потом за хвост – непроизвольно, чтобы забраться на него. И эти части у бронзового буйвола стали со временем золотого цвета – натерлись. Смешно! Но это не специально – эта скульптура именно так живет среди людей. В Бобруйске, например, трут бобра, в Солигорске – крота, в Шклове – огурец на счастье чуть ли не облизывают. Равнодушных нет!



**– Мне кажется все же бытовой скульптуры сейчас переизбыток, она захлестнула наши улицы. Вот недавно появились бронзовые аисты в аэропорту. По-моему, очень спорная композиция. Такие грустные утомленные птицы… Скрюченные, скорченные… Народ уже и название им дал – «Невыездные белорусы».**

– Наверное, опять городской монументальный совет принимал. Вообще-то, надо было подойти к идее серьезнее: аэропорт – ворота страны. В Варшаве, например, стоит маленькая головка Шопена – работа известного скульптора Ксаверия Дуниковского. Одухотворенный, обобщенный образ композитора, которого знает весь мир. И через этот символ воспринимают и столицу страны Варшаву. А эти птицы вызывают жалость…

**– Неловкость…**

– Само здание нашего аэропорта не очень выразительное, а теперь еще эти сомнительные украшения. А на его территории есть еще «Маленький Принц» Сент-Экзюпери. Вот чья это инициатива? Конечно, администрации аэропорта.

**– И зачем белорусскому Национальному аэропорту Минск герой книги всемирно известного француза Сент-Экзюпери?**

– Я примерно знаю, как рождаются эти идеи. Сидит узкий круг людей: а давайте сделаем!.. Что ж, с аистами у них получился настоящий анекдот, довольно пошлая композиция. Я эту работу не понимаю вообще – какие-то чумные маски средневековья…

**– Хочешь не хочешь, а любая скульптура в городе несет в себе мощный идеологический заряд, верно? Вот почему при советской власти к вам было такое пристальное внимание.**

– Конечно, были четкие установки. Теперь творческая свобода, а оборачивается образцами плохого вкуса. Поэтому все, что появляется в столице, должно проходить через Республиканский и городской монументально-экспертные советы и обязательно на конкурсной основе. Кстати, еще большее безвкусие проявляется в мемориальной, кладбищенской скульптуре – это же один из видов нашей деятельности. Идешь по кладбищу и видишь: перебор, цыганщина, пошлятина.

**– Кстати, вы делали надгробный памятник великой актрисе Стефании Станюте. Как пришел к вам этот заказ?**

– Ко мне обратился ее сын (ныне покойный) Александр Александрович. Я счастлив, что мы с ним встретились, он был человеком с высоким вкусом, писатель, профессор, литературовед. У нас с ним был, что называется, консенсус. Я сделал памятник Стефании Михайловне достаточно в условной манере, кстати, совет еще пришлось убеждать, они хотели в памятнике больше анатомии. Но я доказал свою точку зрения.

**– А есть ли у вас работы, которые самому не по душе? А уже стоят… Жизнь-то длинная.**

– Сразу скажу, что я Ленина не делал!

**– Скоро в Белорусском союзе художников будет проходить очередной съезд. Как вы считаете, вашей творческой организации нужны реформы или, в принципе, она функционирует нормально?**

– Нынешнее руководство сделало много хорошего, но, наверное, нужно искать новые пути, открывать новые возможности для выживания. Я считаю, что художникам нужен только такой союз, который серьезно облегчает нам жизнь, ведь мы, в принципе, работаем совершенно самостоятельно. А что на деле? Мы сами организовываем свои выставки, стопроцентно оплачиваем мастерские, покупаем дорогостоящие материалы для работы. Спрашивается: зачем нам содержать союз с его администрацией? Какая от него отдача? Раньше быть членом союза считалось честью прежде всего потому, что он обеспечивал работой, заказами, были льготы на приобретение материалов. Теперь закупок практически нет, мастерские страшно дорогие. И престиж союза, считаю, почти на нуле. Хотелось бы, чтобы у союза были более близкие отношения с городской администрацией, чтобы Министерство культуры уделяло больше внимания художникам, заключая договоры на произведения к республиканским выставкам. В общем, есть очень много трудных вопросов. Пока наш корабль стоит на якоре. А должен идти под парусами.

**Елена МОЛОЧКО.**

УЛЫБКА ХУДОЖНИКА




# «Найдите не родственников, не сыновей, не любовников...»

Президент Беларуси Александр Лукашенко недавно провел в Витебске совещание, посвященное работе агропромышленного комплекса региона, сообщили в пресс-службе главы государства. Ключевым вопросом специального рабочего совещания стало предложение о создании в Витебской области суперхолдинга, который, как предлагалось, должен объединить в себе основную часть производства аграрной продукции в регионе.

Александр Лукашенко призвал учитывать интересы людей и не забывать о развитии сельской местности, потому что его беспокоит, сохранится ли село на Витебщине.

«Меня как президента это беспокоит. И люди интересуются. Это главное, это основа», – подчеркнул он.

Поэтому на работу в холдинги нужно приглашать профессионалов, так как они смогут наладить функционирование интеграционных структур. С такими людьми нужно договариваться и платить хорошую зарплату, возможно, давать квартиры.

«Специалисты во всем мире очень дорого стоят. Найдите не родственников, не сыновей, не любовниц, не любовников, а хороших специалистов и направьте туда», – дал указание Лукашенко.

В результате анализа работы интеграционных структур в регионе белорусский президент пришел к выводу, что нет смысла создавать еще одну структуру, которая всех их объединит. Поэтому необходимо получить результат от уже созданных холдингов.

ПОСТСКРЫПТУМ

# Няўжо яны не разумеюць, што сёння пры сучасных інфармацыйных тэхналогіях нельга схаваць рэальную карцінку той ці іншай падзеі?

Шкада, што ў Вільні на пахаванні Кастуся Каліноўскага і дзевятнаццаці яго пабрацімаў побач з прэзідэнтамі Літвы і Польшчы не было кіраўніка нашай краіны. Не ўбачыў я і прадстаўніка Беларускай праваслаўнай царквы. Паколькі героі паўстання 1863–1864 гадоў заслугоўваюць не толькі чыста хрысціянскай, але і вайсковай пашаны, то я не разумею, чаму наш міністр абароны Раўкоў не накіраваў для ўдзелу у жалобнай цырымоніі сваю нацыянальную варту.

Мне, адданаму беларусу, сорамна, як гэту гістарычную падзею асвятлялі нашы афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі. Гэта ж трэба так скампанаваць тэлекадры, каб схаваць сотні бел-чырвона-белых сцягоў, якія з'яўляюцца гістарычнай сімволікай. Гэта класічны прыклад непавагі ідэолагаў-журналістаў да сваёй прафесіі і знявага гледачоў. Такі ж папрок тычыцца і супрацоўнікаў Беларускага тэлеграфнага агенцтва. Няўжо яны не разумеюць, што сёння пры сучасных тэхналогіях нельга схаваць рэальную карцінку той ці іншай падзеі? Беларускамоўны канал «Белсат» на працягу сямі гадзін вёў прамую трансляцыю з Вільні і на экране былі кадры, адлюстроўваючыя літаральна ўсе моманты пахавальнай цырымоніі. У чарговым нумары газеты «Народная Воля» таксама праўдзіва і аб'ектыўна асветлена важная гістарычная падзея.

Пахвальна, што словы намесніка прэм'ер-міністра нашай краіны Ігара Петрышэнкі прагучалі ў Вільні на беларускай мове. Нездарма ж паролем Кастуся Каліноўскага з'яўляліся словы: «Каго любіш?» – «Люблю Беларусь!».

**Мікола САВІЦКІ, прафесар.**

ПРИНЦИПИАЛЬНО!

# Новый парламент должен принять закон о компенсации советских вкладов

Кто только за 25 лет независимости не обещал вернуть людям их сгоревшие сбережения в полном объеме! Кандидат в президенты Александр Григорьевич Лукашенко. Председатель Нацбанка Петр Прокопович, заслуги которого были оценены званием Герой Беларуси. Прокопович, помнится, уверял, что выплату денег начнут с 2012 года, что ни одна копейка вкладчиков не пропадет. И что?!

Последний раз вопрос о возврате банковских сбережений был поднят на уровне президента в этом году, глава государства дал поручение председателю правительства Сергею Румасу разобраться с этим вопросом и доложить президенту.

Доложил?! Не известно. А ведь люди ждут не дождутся решения проблемы.

Я вот еще о чем подумал. Много критики раздается по поводу того, как прошла последняя парламентская избирательная кампания. И не случайно. Хотят новые депутаты на деле доказать, что их действительно выбрал народ, что они пекутся о своих избирателях, – пусть примут закон о компенсации советских вкладов! Пусть убедят нас в том, что в основе нашего государства лежит именно справедливость, о которой часто говорит А.Лукашенко.

**Василий Семенович БОЛДЫШЕВ, кандидат сельскохозяйственных наук, пенсионер.**
*Минск.*

МЕРКАВАННЕ

# Што, з парламенцкіх выбараў знімуць 50-працэнтны парог?

Паважаная рэдакцыя! Хачу выказацца наконт агітацыі і загону студэнтаў на датэрміновае галасаванне.

На маю думку, старшыня ЦВК Ярмошына займаецца казуістыкай. Згодна з яе логікай, «принуждением» можна лічыць толькі пагрозы. А як быць з загадам, які сыходзіць ад куратараў, камендантаў, старшых па званні, ідэолагаў, дырэктараў? Зусім не дзеля выхавання грамадзянскай пазіцыі моладзь гоняць на ўчасткі, а з-за хранічнага недахопу яўкі. Дайце веры, неўзабаве ўлады і з парламенцкіх выбараў знімуць 50-працэнтны парог, як знялі з мясцовых.

Але што дзіўна: назіральнікі сцвярджаюць, што і на мінулых **мясцовых** выбарах прыпісвалі лічбы. Па звычцы ці з-за страху перад арганізатарамі «народнага волевыяўлення», што маячаць за спінамі настаўнікаў – членаў выбарчых камісій?

Асобная праблема – колькі можна выязджаць на педагогах, прымушаючы іх ісці супраць сумлення? Ці ж такім чынам не гадуецца ў нас цынічная, беспрынцыпная змена?

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ.**

НАБАЛЕЛА!

# Няўжо кантралёру стала хораша на душы?



Паважаная рэдакцыя! Піша вам пастаянная чытачка. Вельмі прыкра на душы, хочацца выказацца…

Узгадаўся мне нарыс спадарыні Малочка – вельмі гнеўны і асуджальны – аб тым, як нейкі маладзён абражаў кантралёра грамадскага транспарту і нават пагражаў ці то алоўкам, ці то шарыкавай ручкай. Безумоўна, кепскі ўчынак. А я нядаўна была сведкам не менш ганебнай сітуацыі. Кантралёр грамадскага транспарту, жанчына сталага ўзросту, выгнала з трамвая №3 вельмі старую, бедна апранутую жанчыну. Калі я спыталася ў кантралёра, ці ёсць у яе маці і ці не сорамна ёй, яна адказала: «Вот вы взяли себе билет, и ей возьмите, если вам ее жалко».

Божа, у якім грамадстве мы жывём?! Якая дэградацыя! Можа, гэтая старая жанчына аддала апошнія капейкі на лекі, каб неяк выжыць. Бяда, што састарэлыя людзі, якія працавалі ўсё жыццё на нізкааплатных, але такіх патрэбных дзяржаве работах, цяпер выжываюць за мізэрныя пенсіі.

Скажыце: няўжо гэтай жанчыне-кантралёру стала хораша на душы, што старая папляцецца пешшу на хворых, апухлых нагах? Хтосьці можа аспрэчыць: заробак кантралёра залежыць ад колькасці выпісаных ім штрафаў, кантралёру таксама трэба за нешта жыць. Але як мы дапускаем, што нямоглыя старыя не маюць магчымасці ў сацыяльна арыентаванай дзяржаве карыстацца грамадскім транспартам?! Вось зараз прыйшлі новыя дэпутаты ў Палату прадстаўнікоў, будуць прымаць новыя законы, але ці зменіцца штосьці ў жыцці выбаршчыкаў?..

**Людміла Міхайлаўна НАРКЕВІЧ.**
*Мінск.*

НЕЛЬГА МАЎЧАЦЬ!

# У нас адны лічбы, у іх – другія…

Назіранне на ўчастку №565 Усходняй акругі №107, які месціўся ў СШ №147 па вул.Мірашнічэнкі, 35А, увесь час на працягу шасці дзён галасавання вялі чатыры незалежныя назіральнікі: **Яўген Балтрамун, Уладзімір Шыла** ад «Права выбару», ад грамадскага аб'яднання «Хрысціянская злучнасць «Курапаты» **Людміла Шлеперава** і я. Акрамя таго, 14 лістапада ў другой палове дня выбары на нашым участку назіраў **Валерый Шчукін**, давераная асоба кандыдата **Наталлі Гарачка**.

Толькі ў першы дзень я прыйшла на ўчастак ў 11.30. Спыталася ў назіральніц, якія там ужо сядзелі (гэта былі **Вольга Буткевіч** і **Таццяна Чарніцкая**), ці былі выбаршчыкі і колькі. Яны адказалі, што прагаласавалі на гэты момант пяць чалавек.

Паводле падлікаў незалежных назіральнікаў, за дні папярэдняга галасавання ўчастак наведалі ўсяго 99 выбаршчыкаў. Лічбы камісіі былі зусім іншыя. У першы дзень яўка была завышана, па нашых падліках, у 10 разоў: мы налічылі 13 чалавек, якія прагаласавалі, яны 138. Як так? Усе ж разам сядзім у адным пакоі! Мы напісалі скаргу ў акруговую камісію і пракуратуру. Відаць, таму на наступны дзень лічбы назіральнікаў і камісіі супалі – 8. Але ўжо 14 лістапада зноў мы заўважылі вялікае завышэнне яўкі: 27 – у назіральнікаў, 78 – у пратаколе. Напісалі другую скаргу. У пятніцу 15-га камісія, па нашых звестках, завысіла яўку ў чатыры разы: мы зафіксавалі 29 чалавек, якія прагаласавалі, а яны – 115. Па гэтым дні была накіравана трэцяя скарга. У суботу мы ўбачылі выніковую лічбу камісіі: 355.

У асноўны дзень лічбы назіральнікаў і камісіі амаль супалі: у нас 231, у пратаколе 225.

На наша пытанне да старшыні камісіі, колькі заявак ёсць на галасаванне на даму, ён адказаў, што ў спісе шэсць выбаршчыкаў. Але пры падліку высветлілася, што на даму прагаласавалі 42 чалавекі (?!).

Калі падвесці вынікі, то, паводле нашых падлікаў, у галасаванні на ўчастку №565 удзельнічалі 373 чалавекі. Гэта 34,6 працэнта ад агульнага спісу выбаршчыкаў, ад 1078. Значыць, фактычна выбары на ўчастку не адбыліся. Так, афіцыйныя лічбы іншыя. Але нас, назіральнікаў, яны ніколі не пераканаюць у тым, што падчас выбараў усё адбывалася па законе.

Вось якія парушэнні мы выявілі:

– завышэнне яўкі ў дні папярэдняга галасавання – агулам у 3,5 раза. Мяркуем, менавіта на гэтым этапе адбылася найбольшая фальсіфікацыя вынікаў выбараў. Не выключаем, што вечарам у суботу было ўкінута ў скрыню каля 250 бюлетэняў за праўладнага кандыдата;

– не было адкрытага падліку галасоў, назіральнікам былі бачны толькі, прабачце, заднія часткі целаў членаў камісіі;

– парушэнне парадку галасавання на даму – паехалі са спісам шэсць чалавек, прыехалі з 42 бюлетэнямі.

Трэба адзначыць такую з'яву, як «арганізацыя назірання». На ўчастку вісеў графік дзяжурства так званых праўладных назіральнікаў. Кіраваў «камандай» намеснік старшыні **Мікалай Хамянок**. Ён раздаваў ім лісты са справаздачамі, якія яны павінны былі запоўніць і здаць яму пасля дзяжурства. Гэтыя назіральнікі імкнуліся перашкодзіць нам, правакавалі канфлікты. Адзін з іх, **Віталь Ігнаценка,** 12 лістапада не даваў мне сфатаграфаваць выніковы пратакол, а 14 лістапада крычаў на Валерыя Шчукіна, які хацеў задаць пытанне старшыні. Асабліва агрэсіўна яны паводзілі сябе ў апошні дзень, падчас падліку галасоў. Па іх паводзінах было заўважна, што ўсе яны ведаюць адзін аднаго, таму, мяркуем, што ўсе назіральнікі працуюць у адной установе, тым самым ЖЭУ Савецкага раёна, кіраўніком якога з'яўляецца старшыня выбарчай камісіі **Павел Бабpoўскі.** Дарэчы, выбарчая камісія, відаць па ўсім, таксама была сфарміравана з асоб, якія працуюць у гэтым ЖЭУ і з'яўляюцца падначаленымі Паўла Бабpoўскага.

Скажыце, калі ласка, ці ж можна такія выбары назваць дэмакратычнымі?

**Наталля ІЛЫНІЧ, назіральніца.**

ТВОРЧАСЦЬ ЧЫТАЧОЎ

## Даражыце жыццём!

А жыццё прамільгне, нібы пробліск маланкі,
Хоць, здаецца, няспешна дарогай ідзём.
Тут – цвітуць верасы, там – з грыбамі палянкі…
Бог супыніць: «Рахункі давай падвядзём».

І тады зразумееш – як мала адведзена часу,
І тады зразумееш – як шмат ты яшчэ не зрабіў!
Што ў пражытым жыцці застанецца акрасай?
Ці свой век ты адбыў, ці напоўніцу жыў?

Што паспеў ты зрабіць? Што нашчадкам пакінеш?
І што стане для іх запаветам тваім?
Ці – зусім непрыкметна і ціха – ты згінеш,
Як знікае ў паветры над вогнішчам дым?

Ці адведае хтосьці цябе на пагосце,
Каб схіліць у пашане сваю галаву?
Ці на роднай зямлі пачуваўся ты госцем
І на ўсё меў адказ: «Я і так пражыву!»

А жыццё проста так не даруецца людзям,
Трэба кожным адпушчаным днём даражыць.
Бо другога жыцця ў нас ніколі не будзе,
Каб памылкі папраўіць і нанава жыць.

**Святлана КАЗАКЕВІЧ.**
**г.Маладзечна.**

ПИСЬМО В РЕДАКЦИЮ

# Шум, который отбирает у меня здоровье

Я хочу описать, как издеваются у нас в Беларуси над тысячами добропорядочных граждан. Каким адским мукам и страданиям подвергаются семьи, проживающие в городских многоэтажках на протяжении 25–30 лет и, кажется, обреченные на эти издевательства на всю оставшуюся жизнь.

Я живу на первом этаже девятиэтажного дома. Получила квартиру в январе 1987 года. Вначале все было хорошо, но вот в 1994 году в подвале, прямо под моей квартирой, поставили оборудование для АКТП (автоматизированного компактного теплового пункта). И начались проблемы. Поскольку горячая и холодная вода плохо поступала на верхние этажи, дополнительно вмонтировали насосы. Трубы от всей системы прибили к потолку, то есть к полу моей квартиры. Шум в квартире стоит ужасный. От вибрации у меня в ванной и туалете всё ходит ходуном. В спальне стекла в окнах дребезжат. Невыносимый монотонный гул стоит 24 часа в сутки, днем и ночью, зимой и летом, на протяжении вот уже многих лет.

Я неоднократно обращалась с жалобой не только в ЖЭУ, но и выше. Вместо того чтобы что-то сделать, исполком направлял мои заявления в санстанцию, этим всё и заканчивалось. Только массовые протесты помогли. Часть труб сняли с потолка, вибрация и дребезжание стекол прекратилось, но остался монотонный гул от АКТП, от насосов и от части оставшихся в потолке труб.

Так как ЖЭУ №3 больше ничего не делало, в 2017 году я опять обратилась в Мозырский райисполком с просьбой устранить шум из подвала от всей системы АКТП, сделав хорошую звукоизоляцию. И вот результат: немного заделали щели возле труб, под залом и кухней навесили полистирол (это так сделали звукоизоляцию). Я говорю «навесили», потому что его то снимают, то опять прикручивают. А щели между несущей стеной и плитами перекрытия так и не заделали.

Я на кухне положила плитку, положив под нее много керамзита, в надежде, что шум уменьшится. Какой-то эффект это дало, но незначительный.

Поскольку шум от АКТП так и не устранили, то, чтобы хоть как-то облегчить мои страдания, поставили автоматику, с тем чтобы с 24 часов до 5 утра насосы отключались. Но, скажите, пожилому человеку достаточно спать всего пять часов?

31 октября 2018 года я обратилась с жалобой к президенту А.Г.Лукашенко. После этого заменили оборудование АКТП, перейдя на другие параметры. Вы думаете, мои мучения на этом закончились? Нет.

Чтобы хоть немного перебить монотонный гул, специально включаю телевизор. Но иногда стоит такой шум, что даже телевизор не может заглушить. Чтобы доказать, что шум устранили, прислали представителей санстанции. Видно, в это время что-то отключили, потому что шума почти не ощущалось. Но на следующий день он опять появился.

Жилое помещение – это не производственное. На работе человек находится 8 часов, в квартире пожилые люди проводят, считай, круглые сутки. И о каких санитарных нормах можно говорить в таком случае!

Моя младшая дочь учится в Германии. Когда она родила двойню, я поехала к ней в Берлин. В субботу днем начала пылесосить. Дочь запретила это делать, объяснив, что в Германии закон: в выходные и праздничные дни с 11.00 до 15.00 запрещено шуметь, люди отдыхают.

Я пошла с дочерью в подвал, чтобы посмотреть их систему тепловых пунктов. Смотрю: по несущей стене намного ниже окошек протянуты три трубы, и одна висит на полметра от потолка – ее покрывает толстый слой изоляции. Подвалы застеклены двойным остеклением. А у нас и зимой и летом они вообще не застеклены.

Можно было бы и у нас сделать так, как в Германии. А вообще, хочу одного: чтобы в доме, в котором я живу, убрали всю систему АКТП из подвала. Только так можно устранить шум, который вот уже много лет отбирает у меня здоровье.

**Тамара Захаровна ЯВОРСКАЯ, проживающая в Мозыре по Страконицкому бульвару в доме №12.**

РЭХА ВАЙНЫ

# Шлюбная сукенка з парашутнага шоўку

## *або Аповед аб тым, як у Польшчы захоўваюць памяць аб Другой сусветнай вайне*

*Чорныя даты не прынята называць юбілеямі. Але памятаць пра іх трэба. Тым больш калі гаворка ідзе пра 80-годдзе з дня пачатку Другой сусветнай вайны. Для Польшчы гэтая дата асабліва трагічная: менавіта ёй 1 верасня 1939 года прыйшлося прыняць на сябе першы ўдар фашысцкай Германіі. Для многіх беларусаў вайна таксама пачалася не 22 чэрвеня 1941 года, а на два гады раней. Так што для нас гэта таксама павінна быць зарубкай у нацыянальнай свядомасці. У сумеснай, калі хочаце, памяці. Па запрашэнні польскага МЗС мы, група беларускіх журналістаў, пабывалі ў суседняй краіне і паглядзелі, як там увекавечана найвялікшая трагедыя XX стагоддзя. Тыднёвая праграма паездкі была супернасычанай: музеі, воінскія пахаванні, былы канцэнтрацыйны лагер Штуттгоф… Пачаць аповед мне хочацца з вельмі маладога і, я сказала б, вельмі сімвалічнага музея – Другой сусветнай вайны ў Гданьску.*




### На глыбіні 14 метраў пад зямлёй

Велічны будынак музея, які адкрыўся для наведвальнікаў у сакавіку 2017 года, уражвае сваёй канструктывісцкай архітэктурай. Асацыяцыі ў наведвальнікаў бываюць рознымі: ад снарада, што ўрэзаўся ў зямлю і не разарваўся, да будынка, які вось-вось абрынецца пасля варожай бамбёжкі. І тым не менш ён дзіўным чынам упісваецца ў гатычнае аблічча старажытнага Гданьска. Вось так таленавітыя дойліды, вырашаючы складаную задачу стварэння самага вялікага ў Еўропе сховішча дакументаў і экспанатаў аб мінулай вайне, пастараліся нагадаць людзям аб гэтай трагедыі. Нашым гідам па велізарных залах стаў галоўны спецыяліст навуковага аддзела Дзмітрый Панто. Ён распавёў, што пабудаваны музей на месцы былога мікраёна Бачкары, які быў цалкам разбураны ў 1945 годзе. І, так здарылася, нават праз доўгія гады не адноўлены. І калі на пачатку 2000-х гадоў зямля была аддадзена пад будаўніцтва задуманага мемарыяла і археолагі сталі праводзіць на гэтым месцы раскопкі, на белы свет з'явіліся рэчы з паўсядзённага ўжытку жыхароў даваеннага Гданьска. Будучыя экспанаты музея. Прыкладна 100 тысяч адзінак, знойдзеных у літаральным сэнсе пад нагамі. Можа быць, па гэтай прычыне паўстала канцэпцыя стварэння музея ў трох узроўнях: падземны, на глыбіні 14 метраў, сімвалізуе, што вайна павінна быць назаўжды пахавана пад зямлёй; на паверхні зямлі, дзе размешчана плошча, якая азначае сучаснасць, і вежа, якая ўвасабляе будучыню. Менавіта ў вежы, як удакладніў пан Дзмітрый, размешчаны бібліятэка, адкрытая для ўсіх жыхароў горада, уласнае выдавецтва, навуковы аддзел.

### У адпаведнасці з канцэпцыяй «трэцяга месца»

– Мы пастараліся стварыць музей у адпаведнасці з канцэпцыяй «трэцяга месца», – пан Дзмітрый не пераставаў здзіўляць нас мудрагелістымі тэрмінамі. – Чулі пра такую? Пра яе ўпершыню напісаў амерыканскі сацыёлаг Рэй Ольдэнбург у сваёй кнізе, якая так і называецца «Трэцяе месца». На першым месцы ў чалавека стаіць дом, дзе ён жыве. На другім – праца, дзе ён таксама праводзіць немалую частку жыцця. А на трэцім павінны знаходзіцца інстытуцыі, куды чалавек можа прыйсці ў вольны час і пагутарыць з сябрамі, аднадумцамі, адчуваючы сябе свабодна і камфортна. Таму ў нас тут ёсць кафэ і рэстаран, кіназала, розная кшталту пляцоўкі, дзе праходзяць канцэрты і выступленні артыстаў. Так, экспазіцыя – сэрца музея, але не менш важныя і іншыя органы.



Наш музей і экспазіцыя ў ім наратыўныя. Гэта значыць, што ўбачаныя экспанаты з подпісамі пад імі наведвальнік можа чытаць і інтэрпрэтаваць сам, без гіда. Гэта аповед з дапамогай індывідуальных гісторый і прадметаў, якія маюцца ў экспазіцыі. І, як у кожнага аповеду, у яго ёсць пачатак, кульмінацыя і канец. Мы стараемся правесці гэта апавяданне не так, як рабілася ў 1950–1970-я гады, а са зваротнай сувяззю. Дамінанта зроблена на суперажыванні тых, хто прыйшоў сюды. Таму ў нас велізарны запіс вусных успамінаў – каля 480 хвілін.

Пан Дзмітрый распавёў таксама, што Гданьскі музей актыўна супрацоўнічае з калегамі з іншых краін. І з беларускімі ў прыватнасці. Абменьваюцца экспанатамі, фатаграфіямі, напрыклад, па партызанскім руху. Дзмітрый летась пабываў у Мінску сем разоў. А беларускія музейшчыкі з Музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, гістарычнага прыязджаюць да іх на стажыроўку. Гданьскія захавальнікі ваеннай гісторыі паказваюць ім свае фонды, дзеляцца канцэптуальнымі ідэямі, знаёмяць з метадамі кансервацыі экспанатаў.

Да таго ж, паколькі ў музея ёсць спецыяльныя артыкулы фінансавання навуковых праектаў, музейшчыкі з Гданьска рэгулярна выязджаюць у нашу краіну для папаўнення калекцыі вусных успамінаў. Самы жыватворны (думаю, зразумела чаму) рэгіён для падобных экспедыцый – Заходняя Беларусь, дзе яшчэ жывыя сведкі мінулага. Не толькі палякі па нацыянальнасці, ветэраны, дзеці вайны, беларусы, якія перажылі страшнае ліхалецце. Іх поўныя драматызму апавяданні запісваюцца на кінакамеру – усё афіцыйна, па дамоўленасці з беларускім МЗС. Копіі відэаролікаў потым высылаюцца апавядальнікам і становяцца, як кажуць самі відавочцы, сямейнай рэліквіяй, памяццю для ўнукаў і праўнукаў.

Гданьскія спецыялісты ўжо пабывалі з такой місіяй у Лідзе, Пружанах, Ваўкавыску, Нясвіжы, Міры, Брэсцкай крэпасці, зараз плануюць пабываць на беларускім Палессі. Дарэчы, у вялізнай бібліятэцы музея, якая налічвае больш за 50 тысяч тамоў на 37 мовах свету, ёсць і выдадзеныя ў Беларусі 160 кніг «Памяць». Таму што задача музея, як падкрэсліў Дзмітрый Панто, паказаць не проста польскі вопыт Другой сусветнай, а вайну на шырокім гістарычным фоне. Невыпадкова ў экспазіцыі нямала матэрыялаў, прысвечаных іншым краінам, удзельніцам баявых дзеянняў, пачынаючы ад СССР, якога не стала на карце свету, і заканчваючы Японіяй.

### Роздум за школьнай партай

Пан Дзмітрый правёў нас па экспазіцыі, якая ўваходзіць у разрад «12+» – гэта значыць прызначанай для школьнікаў. Нізкі паклон таму, хто прыдумаў такі душэўны і неказённы шлях да дзіцячага сэрца! Ведаеце, як выглядае тое месца музея, дзе пастаянна гучаць звонкія галасы? Гэта звычайная кватэра даваеннай польскай сям'і. Вось стол, шафа, камода, куфэрачак з біжутэрыяй. За акном звіняць трамваі, спяшаюцца пешаходы, юны разносчык газет размахвае пачкам свежанадрукаваных навін. Але пачынаецца вайна – і ўтульны пакой ператвараецца ў прытулак: каштоўнасці і адзенне паступова знікаюць, прыгожы посуд разбіваецца, у сцяне – дзірка ад снарада…

Так, эмацыянальны падыход – самы правільны, каб душой адчуць і зразумець боль і трагедыю іншых.

А вось яшчэ выстава, прызначаная для дзіцячага ўспрымання: даваенны школьны клас, у ім старадаўнія драўляныя парты, грыфельная дошка ў куце, крэйды, каб пісаць на ёй словы. За партамі можна пасядзець, а крэйды нават ціхенька сцягнуць дадому, што непаседлівыя школьнікі часта і робяць. Што ж, можна было б забараніць чапаць экспанаты рукамі, але ў Гданьскім музеі лічаць больш мэтазгодным заказваць копіі некаторых экспанатаў з запасам у разліку на тое, што канкрэтныя рэчы ў будучым не дадуць згаснуць памяці падрастаючага пакалення.

Потым мы, журналісты, самастойна хадзілі па, здавалася, бясконцых залах-лабірынтах музея, разглядаючы вельмі ўдала, тонка падабраныя экспанаты: плакаты ваеннага часу розных краін, паштоўкі, што адпраўлялі салдаты сваім каханым і нават раскошную белую шлюбную сукенку, пашытую з японскага парашутнага шоўку. Вайна вайной, а каханне каханнем – можа, таму нашы дзяды-прадзеды і вытрымалі ў той вайне, што не развучыліся кахаць і верыць у лепшае.

А крыху пазней мы пабывалі ў іншых знакавых музеях краіны: легендарным Музеі Варшаўскага паўстання ў сталіцы Польшчы і Ваенна-марскім музеі ў Гдыні. Вельмі розныя яны і адначасова вельмі падобныя. Чым? Адушаўлёным, інтэрактыўным падыходам да таго, што паказваюць людзям. Энтузіязмам тых, хто там працуе. Непадробным гонарам за сваю краіну. Пра Музей Варшаўскага паўстання я ўжо пісала летась, таму паўтарацца не буду. А вось пра Музей ВМС дадам толькі адно, што мяне больш за ўсё ўразіла. Не, не плывучыя міны, не мадэлі эсмінцаў і нават не прышвартаваны да берага рэальны карабель «Бліскавіца», а залаты пярсцёнак з каменем. У гэтай рэчы кранальная гісторыя. У суровы ваенны час адзін марак запрасіў на хрэсьбіны свайго капітана, а ў таго не было падарунка. І тады навааўлены хросны зняў з рукі фамільную рэліквію – пярсцёнак…

Зрэшты, падобных гісторый наперадзе яшчэ шмат. Так што чакайце працягу.

**Людміла СЯЛІЦКАЯ.**

*Гданьск–Гдыня, Варшава.*

ТАЙНЫ ИСТОРИИ

# Куда ты завел нас, проклятый старик?

*Иван Сусанин не заманивал поляков в болото. Зато его предприимчивые потомки здорово нажились на мифе, будто их предок отдал жизнь за царя и Отечество.*

Об Иване Сусанине достоверно известно лишь то, что он действительно существовал. В 1619 году его зять Богдан Собинин получил за героический поступок тестя от царя Михаила Федоровича половину деревни и полное освобождение от налогов. Согласно жалованной грамоте, в конце 1613 года, когда новоизбранный царь Михаил находился в Костроме, в деревню Домнино, где жил Сусанин, ворвался польско-литовский отряд и начал мучить крестьянина, допытываясь у него, где находится царь. Под пытками Иван умер, так и не сказав ничего полякам. Версия о том, что житель глухой деревни мог просто не знать о месте пребывания монарха, даже не рассматривалась. Пробивной зять настоял, что его родственник отдал жизнь за спасение царя. Не отличавшийся большим умом Михаил растрогался и облагодетельствовал Собинина. Так возникла легенда об Иване Сусанине.

### Марка в честь оперы Глинки «Иван Сусанин»

Вновь вспомнили о ней в Екатерининскую эпоху, а официальный канон эта история получила уже при Николае I. 45-летний крестьянин превратился в старика, его повысили сперва до сельского старосты, затем до боярского приказчика. Тогда же появилась версия, что Сусанин вызвался отвести поляков к царской ставке, а сам завел их в непроходимое болото, за что и был убит. История о крестьянине, ценою жизни спасшем государя, чудесно укладывалась в идеологическую концепцию «православие, самодержавие и народность». Кроме того, она пробуждала ненависть к полякам, что было особенно актуально во время польского восстания 1830 года.

В период царствования Николая I появилось множество поэм, опер и картин, посвященных подвигу Сусанина. Все они почти не опирались на исторические факты, что дало основания историку Костомарову назвать официально возвеличиваемое событие анекдотом. Костомаров предполагал, что Сусанин стал жертвой одной из многочисленных воровских шаек, в смутное время шнырявших по всей стране. Убийцами вполне могли быть и русские преступники, которым не было никакого дела до поисков царя.

Легенду о Сусанине активно использовала и советская пропаганда. Правда, монархическую тему из нее тщательно вымарали, переименовав даже оперу Глинки «Жизнь за царя». Теперь Сусанин стал символом русского патриота, не пожалевшего себя ради спасения Отечества. При этом в быту Иваном Сусаниным называют чаще всего неопытного проводника, плохо знающего дорогу.

«Литовский курьер», №38.

НОВОСТИ ГЕРМАНИИ

# Автопром страны ускоряет переход на гибриды и электромобили

Генеральные директора BMW, Daimler, Opel и Porsche рассказали на конференции Handelsblatt Auto-Gipfel 2019 в Штутгарте, когда немецкие автомобили станут электрическими. «И политики, и бизнес приняли для себя решение: мы это сделаем», – подчеркнул, говоря о переориентации на электромобильность, новый председатель правления Daimler и одновременно глава подразделения Mercedes-Benz Cars Ола Каллениус.

Сам он уже пересел в плагин-гибрид (об этом, судя по опросам, подумывают все больше немецких автолюбителей) и рассказал, что очень быстро привык, приезжая с работы домой, тут же подключать его к розетке. К 2030 году как минимум в каждом втором новом легковом «Мерседесе» будет работать электрический мотор – либо вместе с двигателем внутреннего сгорания (ДВС), либо самостоятельно.



© Picture alliance/dpa/J. Woitas/dpa-Zentralbild

### BMW – лидер по продаже электрифицированных авто в Европе

Аналогичные планы – у BMW. Новый глава компании Оливер Ципсе напомнил собравшимся, что она уже сейчас является европейским лидером по суммарным продажам частично электрифицированных автомобилей (плагин-гибриды с подзарядкой от электросети, PHEV) и электромобилей (BEV).

К тому же компания раньше многих других, еще в 2013 году, начала серийно выпускать полностью электрическую модель BMW i3, спрос на которую, несмотря на ее уже почтенный по стандартам отрасли возраст, продолжает с каждым годом расти, так что сворачивать ее производство не планируется. Главный проблемой электромобилей Оливер Ципсе считает уже не дальность пробега и не дефицит зарядных станций, а слишком высокую цену.

В 2021 году четверть всех новых автомобилей баварского автостроителя будет оснащена электромотором, сообщил глава BMW, в 2025-м – треть, в 2030-м – половина.

### Глава Opel: Мы хотим электромобильности для всех

Еще более амбициозные целевые установки – у компании Opel. Ее глава Михаэль Лошеллер заявил: «Мы хотим электромобильности для всех». С 2024 года любую модель Opel – как легковые машины, так и легкие коммерческие автомобили – можно будет приобрести либо с ДВС, либо с электромотором. Для этого уже в 2020 году Opel наладит выпуск электрических версий четырех моделей, в 2021-м – еще четырех.

### Каждый второй Porsche будет в 2025 году с электромотором

По схожему пути – одновременно на одних и тех же конвейерах выпускать автомобили с бензиновыми, гибридными и электрическими двигателями, чтобы иметь возможность гибко реагировать на изменения спроса, пошла и компания Porsche, принимавшая Auto-Gipfel 2019 в своем огромном футуристическом фирменном музее в Штутгарте.

В то же время ее материнский концерн Volkswagen, представленный на конференции одним из членов правления, собирается впредь на некоторых предприятиях выпускать только электромобили, ведь он поставил перед собой цель в 2028 году продать по всему миру 22 миллиона машин, работающих исключительно на электрической тяге.

Глава Porsche Оливер Блюме в свою очередь сокращать производство автомобилей с бензиновыми двигателями пока не спешит, однако он тоже убежден, что «магистральным направлением развития является, конечно же, электромобильность». Поэтому до 2022 года компания вложит в ускоренное движение в этом направлении 6 миллиардов евро. В 2025 году примерно половина продукции Porsche, а это спортивные машины и автомобили премиум-класса, будет оснащаться гибридными или электрическими моторами.

Ярким символом происходящего кардинального разворота руководство компании считает начавшееся в сентябре серийное производство электромобиля Taycan (многие сторонние наблюдатели видят в нем ответ на ставшую уже культовой Tesla Model S). Об этом проекте Оливер Блюме и другие топ-менеджеры Porsche говорили на конференции очень много. Для них это не просто новая модель, а принципиально новая глава в истории фирмы.

### Защита климата и конкуренция

Porsche, подчеркнул Оливер Блюме, считает своим долгом внести вклад в защиту глобального климата. На автомобильный транспорт приходится немалый процент парниковых газов, поэтому отрасль, по его словам, «должна стать и частью решения проблемы».

О сокращении выбросов в атмосферу $CO_2$ как главном мотиве перехода на электрическую тягу, о жестких целевых установках на 2030 год, сформулированных Евросоюзом в соответствии с требованиями Парижского соглашения по климату (которое, кстати, в сентябре ввела в действие и Россия), на конференции говорили очень много.

Заходила речь и о растущих экологических требованиях клиентов. А наглядным свидетельством меняющихся в немецком обществе настроений стала не очень многочисленная демонстрация экоактивистов, впервые сопровождавшая это ежегодное мероприятие.

Куда меньше говорили на конференции о растущей международной конкуренции в области электромобильности. А ведь Китай в этой сфере оставил Германию далеко позади, американская Tesla наращивает производство и в 3-м квартале 2019 года даже начала уже работать с прибылью, у японской Toyota, как отметил в Штутгарте вице-президент по научным исследованиям и разработкам ее европейского отделения Геральд Кильман, в этом году свыше половины продаваемых в Европе автомобилей марок Toyota и Lexus являются гибридами.

Иными словами, японский гигант уже сейчас вышел, по крайней мере на европейском рынке, на показатели, которых некоторые немецкие автостроители собираются достигнуть лишь через 5–10 лет. Так что автопром Германии вовсе не бежит впереди того паровоза, который выехал с вокзала в сторону электромобильности.

